*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# Наша Слова.pdf



**Другі год выдання** **№ 52 (104) 27 снежня 2023 г.**

# З Новым 2024 годам!




***Васіль Зуёнак***

## Новы год

Хай будзе высакосны
Не косны і не посны,
Для праўды - бацька хросны,
Не ўскосны, не адносны -
Галосны, ды не злосны.
Хай будзе ён укосны,
Хай будзе хлебаносны,
І росны, і не млосны, -
Высокі высакосны!

## Ліда пераднавагодняя












# Сустрэча з Адамам Міцкевічам

21 снежня 2023 года ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы панавала ўрачыстая атмасфера.

Літаратурна-музычныя зазімкі былі прымеркаваны да 225-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча.








Сабраліся запрошаныя госці: студэнты Лідскага каледжа, сябры літаратурнага аб'яднання "Суквецце" і клуба "Актыўнае даўгалецце".

Ля ўвахода ў канферэнц-залу - тэматычная экспазіцыя: партрэт Адама Міцкевіча, кнігі з яго вершаванымі шэдэўрамі і нават сапраўднае гусінае пяро з чарніліцай - прыладай працы паэта.

Адам Міцкевіч… Хто ж ён, гэты вялікі і таленавіты чалавек? Паэт? Публіцыст? Апошні рамантык? Нацыянальны герой?

Пра жыццё і творчасць Адама Міцкевіча цікава і падрабязна расказала галоўны бібліёграф аддзела абслугоўвання і інфармацыі Галіна Раманаўна Курбыка.

Сувядоўца, лідская паэтэса Тарэза Смольская, пад чароўныя гукі мелодый, душэўна прачытала вершы і фрагменты з паэм Адама і Караліны - каханай паэта.

Лідзянка падзялілася вершаваным прысвячэннем Адаму Міцкевічу са свайго новага зборніка "Хай новыя песні пра Ліду складаюць…"

"Беларус, літовец ці паляк?
Вы чыйго, Адам Міцквевіч, роду,
І якому адданы народу?
У Лідзе Вы! А значыць - мой зямляк!"



Супрацоўнікі бібліятэкі падрыхтавалі інфармацыйную прэзентацыю ў гонар знакамітага паэта эпохі рамантызму.

Гледачы стаіўшы дыханне, акунуліся ў атмасферу XIX стагоддзя, нябачна раздзяліўшы зыркія пачуцці закаханых - Адама Міцкевіча і Караліны Яніш.

Кранальная мелодыя старадаўняга вальсу пагрузіла ўсхваляваных слухачоў у свет прыгожага.

Сустрэча падышла да канца. Але ўдзячныя слухачы панеслі ў сваіх сэрцах новыя эмоцыі, веды і захапленне Адамам Міцкевічам - геніяльным паэтам і далікатным каханым.

***Тарэза Смольская.***



# Каляндар "Скарбы Лідчыны" № 3




*Лідскі гістарычна-мастацкі музей выпусціў чарговы насценны каляндар з серыі "Скарбы Лідчыны". Фармат А-3. Гэта ўжо трэці выпуск серыі. Сёлета каляндар прысвечаны 65-годдзю музея. Набыць каляндар можна ў шапіку музея. Цана 15 руб.*

24 красавіка 1959 г. у адпаведнасці з Пастановай Савета Міністраў БССР № 80-Р ад 10.02.1959 г. у Лідзе быў урачыста адчынены для наведвання краязнаўчы музей. Пра дзейнасць музея ў горадзе Лідзе ўзгадваецца ў 1930-я гады, у 1941 годзе.

Менавіта фондавы збор краязнаўчага музея ў цяперашні час - асноўная скарбніца сучаснага Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Фонды музея складаюцца з 25 калекцый і налічваюць больш за 45 000 адзінак асноўнага фонду і каля 8 000 навукова-дапаможных матэрыялаў. Выклікаюць цікавасць калекцыі археалогіі, нумізматыкі, фалерыстыкі, прадметаў побыту, друкаваныя і выяўленчыя артэфакты.

Рашэннем выканкама Лідскага гарсавета музею быў перададзены будынак былога касцёла піяраў па вуліцы Савецкай, 23. Агульная плошча будынка складала прыкладна 600 м. кв., з якіх пад музей выкарыстоўвалася толькі 300 м.кв. Астатняя частка будынка была занята жыхарамі і канторай філіяла Гроднаваблпраекта.

Першая экспазіцыя размяшчалася пад купалам будынка і складалася з двух аддзелаў: "Вялікая Айчынная вайна 1941 - 1945 гг." і "Гісторыя горада", з 1962 г. адкрыты аддзел прыроды.

У канцы кастрычніка 1963 г. у купальнай частцы будынка пачаліся работы па абсталяванні планетарыя. Музейная экспазіцыя была разабрана, экспанаты перамешчаныя ў прыбудову, дзе раней знаходзіліся жылыя пакоі.

Менавіта тут былі створаны пастаянныя экспазіцыі, якія распавядалі пра гісторыю і культуру Лідскага краю.

У лютым 1970 г. пасля прагляду камісіяй былі адчынены аддзелы прыроды і дасавецкага перыяду.

Рэчавыя калекцыі

сакавік

| пн | аўт | ср | чц | пт | сб | ндз |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

У 1973-1976 гг. экспазіцыя аддзела гісторыі савецкага грамадства была перабудавана. У аснову тэматыка-экспазіцыйнага плану быў закладзены прынцып больш шырокага і глыбокага раскрыцця тэмы шляхам увядзення ў экспазіцыю найболей цікавага дакументальнага матэрыялу і рэчавых экспанатаў.

Афармляў экспазіцыю краязнаўчага музея мастак Менскага вытворчага камбіната А. М. Пуцейка - член Саюза мастакоў СССР.

У канцы 1979 года была створана экспазіцыя "Лідзе





- 600". У экспазіцыі распавядалася пра развіццё прамысловасці, адукацыі, культуры і спорту ў горадзе.

Чарговая перабудова экспазіцыі савецкага перыяду пачалася ў 1985 г. і працягвалася чатыры гады - да 18 траўня 1989 г.

Асноўная ўвага надавалася афармленню новай экспазіцыі па аддзелу гісторыі савецкага перыяду, у прыватнасці па тэме пасляваеннага будаўніцтва і аднаўлення разбуранай гаспадаркі.

Больш экспазіцыі музея не перабудоўваліся, праводзіліся толькі невялікія "праўкі".

Да 1998 г. у дзесяці залах на 317 м. кв. размяшчаліся тры аддзелы: прыроды і далёкага мінулага - на першым паверсе, сучаснага перыяду - на другім.

Усе залы музея працавалі да 1 чэрвеня 1998 г., але ў сувязі з перадачай будынка Навагрудска-Лідскай епархіі экспазіцыя была дэмантавана.

Музею быў выдзелены будынак былога Салона сямейных урачыстасцяў, у якім размяшчалася Лідская мастацкая галерэя.

У 1999 г. музей змяніў сваё месцазнаходжанне і пераехаў на вуліцу Перамогі, 37а.

У лютым 2000 г. Лідскім гарвыканкамам было прынята рашэнне аб аб'яднанні краязнаўчага музея і мастацкай галерэі "Лідзея" ў адну ўстанову - Лідскі гістарычна-мастацкі музей.

4 кастрычніка 2008 года, пасля працяглага рамонту, Лідскі гістарычна-мастацкі музей зноў гасцінна расчыніў дзверы для сваіх наведвальнікаў. Адкрыццё музея прымеркавалі да юбілею горада - 685 годдзя. Пачала працаваць пастаянная экспазіцыя "Прырода Лідчыны". Затым была створана пастаянная экспазіцыя "Сучаснае мастацтва краю", якая з'яўляецца своеасаблівым дакументам эпохі, прэзентуе творчасць сучасных мастакоў Лідчыны як ураджэнцаў, так і тых, чый творчы і жыццёвы шлях звязаны з нашым краем.

22 верасня 2010 года адбылося ўрачыстае адкрыццё Дома Валянціна Таўлая, які стаў аб'ектам ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей". У будынку створаны мемарыяльны пакой паэта, ладзяцца выставы і імрэзы літаратурна-краязнаўчага накірунку.

Лідскі замак таксама з'яўляецца аб'ектам ДУ "Лідскі гістарычна-мастацкі музей". У снежні 2017 года была адкрыта выставачная экспазіцыя "Лідскі замак. Гістарычныя падзеі і постаці" ў паўночна-ўсходняй вежы Лідскага замка. 3 ліпеня 2020 г. у адрэстаўраванай паўднёва-заходняй вежы адкрылася пастаянная экспазіцыя "Старонкі гісторыі. Ад XIV стагоддзя…".

Калектыў Лідскага гістарычна-мастацкага музея пастаянна знаходзіцца ў пошуку новых форм работы ў музейнай прасторы. Супрацоўнікі музея імкнуцца да эфектыўнай працы з рознымі катэгорыямі наведвальнікаў.

Старонкі календара - своеасаблівыя ілюстрацыі да прадстаўленана тэксту.

***Наш кар.***

# Адзіны ўрок памяці Еўфрасінні Полацкай

20 снежня 2023 года ва ўсіх установах агульнай сярэдняй адукацыі нашай краіны прайшоў адзіны ўрок, прысвечаны жыццю і дзейнасці асветніцы, заступніцы зямлі беларускай Еўфрасінні Полацкай.









Вучэбныя і наглядныя дапаможнікі на беларускай мове.

***Вольга Брэйва.***

*Здымкі з СШ № 9 імя Героя Беларусі А.У. Нічыпорчыка г. Ліды.*





# Прэзентацыя кнігі Наталлі Анашкевіч "Герб горада Ліды - гісторыка-геральдычны помнік Беларусі"

Ліда - адзін са старажытных гарадоў Беларусі. Першая згадка пра яго адносіцца да 1323 года. У гэтым годзе Ліда адсвяткавала 700-годдзе. За сем стагоддзяў у горадзе адбылося шмат значных падзей, імёны многіх лідзян увайшлі ў гісторыю горада і сёння вядомы далёка за яго межамі.




20 снежня 2023 года ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы прайшла прэзентацыя кнігі педагога, журналіста, краязнаўцы Наталлі Анашкевіч "Герб горада Ліды - гісторыка-геральдычны помнік Беларусі".

Наталля Анашкевіч - аўтар некалькіх краязнаўчых кніг пра Ліду. Яе творчасць і праца з падрастаючым пакаленнем высока адзначана рознымі ўзнагародамі. Новая кніга Наталлі Анашкевіч прысвечана гісторыі геральдыкі горада Ліда. Для лідзян веды пра гісторыю герба Ліды, як галоўнага сімвала горада, з'яўляюцца актуальнымі і немалаважнымі, бо герб горада "Леў і ключы" мае багатую гісторыю і з'яўляецца ўнікальным гісторыка-геральдычным сімвалам.



Наталля Мікалаеўна Анашкевіч - пісьменнік, дзякуючы якому ажываюць старонкі гісторыі. Яе пісьменніцкая місія сфармавала ў жыхароў г. Ліда розных пакаленняў глыбокую цікавасць да гісторыі роднага краю, да людзей, якія жылі тут раней і тварылі гэтую гісторыю. Дзякуючы карпатлівай працы і невычэрпнаму таленту аўтар піша і выдае кнігі, вартыя вялікай павагі і захаплення. Кніга "Герб горада Ліды - гісторыка-геральдычны помнік Беларусі" мае прыцягальнасць, прастату, непаўторнасць і ўнікальнасць. Асноўная мэта выдання - захоўваць памяць, адчуваць дачыненне да слаўных спраў продкаў і да таго часу, у якім мы жывем.

У Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы стала добрай традыцыяй на новыя кнігі лідскіх пісьменнікаў ствараць буктрэйлеры ў рамках праекта "Літаратурнае сузор'е Лідчыны". Буктрэйлер на кнігу Наталлі Анашкевіч "Герб горада Ліды - гісторыка-геральдычны помнік Беларусі" быў падрыхтаваны супрацоўнікамі аддзела бібліятэчнага маркетынгу і аддзела абслугоўвання і апрацоўкі інфармацыі бібліятэкі і змяшчаў у сабе кароткі агляд выдання з вытрымкамі самых цікавых фактаў пра герб горада Ліда "Леў і ключы". Дадзены відэаролік даступны для прагляду на youtube-канале ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы".

Прысутныя госці з радасцю дзяліліся ўражаннямі ад выдання і яго прэзентацыі. Так, намеснік старшыні Лідскага раённага Савета дэпутатаў, намеснік дырэктара па друкаваных СМІ ДУ "Рэдакцыя "ЛідаМедыяКампанія"" Кацярына Серафіновіч прызналася, што новая кніга пісьменніцы ёй спадабалася і яе неабходна выкарыстоўваць для патрыятычнага выхавання падрастаючага пакалення.



Пісьменнік, журналіст Уладзімір Васько, расказваючы пра Наталлю Мікалаеўну, адзначыў, што яна знайшла сваю дарогу ў літаратуру, у якой яна ж і з'яўляецца першаадкрывальнікам. Уладзімір Гаўрылавіч пахваліў новую кнігу "Герб горада Ліды - гісторыка-геральдычны помнік Беларусі", а таксама пахвальна адгукнуўся і пра папярэднюю кнігу аўтара "У калейдаскопе школьных дзён".

Паэтка Людміла Краснадубская падкрэсліла высокі прафесіяналізм і выдатныя чалавечыя якасці - добразычлівасць і душэўнасць - Наталлі Мікалаеўны, як педагога.

Галоўны бібліёграф Курбыка Галіна Раманаўна ў сваім выступленні расказала, што ўсе кнігі аўтара карыстаюцца нязменным поспехам у чытачоў, таксама яна адзначыла вялікі ўклад у краязнаўства. Наталля Мікалаеўна падарыла Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы кнігу "Герб горада Ліды - гісторыка-геральдычны помнік Беларусі" са сваім аўтографам. Да віншаванняў і пажаданняў далейшых творчых поспехаў у адрас Наталлі Мікалаеўны далучыліся ўсе прысутныя. Вечарына прайшла ў цёплай і сяброўскай атмасферы і выклікала цікавасць да творчасці пісьменніка.

***Бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу К.С. Сандакова.***



№ 52 (104) 27 СНЕЖНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Знаёмства з "Золатам беларускіх палёў": будзе цікава і карысна ўсім!

Сваю чарговую вандроўку па малой радзіме вучні 9 і 11 класаў 11-й лідскай школы здзейснілі падчас зімовых канікул. На гэты раз маршрут пралёг у вёску Ганчары Лідскага раёна. Калі хтосьці падумае, што юныя турысты паехалі знаёміцца з ганчарным рамяством, то крышку памыліцца, таму што ў Ганчарах, на жаль, пакуль не адрадзілі ганчарства. Але тое, што ўбачылі і ў чым паўдзельнічалі юнакі і дзяўчаты, было не менш цікавым, а наадварот, пазнавальным і вельмі ўражлівым.

Летась на базе Ганчарскага дома культуры была адкрыта творчая майстэрня "Калі да лёну з паклонам - добра аддзячыць лён". Менавіта творчую майстэрню і наведалі школьнікі.



Як расказала на пачатку экскурсіі вучням, гаспадыня майстэрні Ганна Мікалаеўна, у Ганчарскім доме культуры не выпадкова адрадзілі ўнікальную тэхніку ручной апрацоўкі лёну. На тэрыторыі сельсавета працуе ўчастак прадпрыемства "Карэлічы-лён", таму лёс многіх мясцовых жыхароў звязаны з перапрацоўкай гэтай культуры, якую ў Беларусі яшчэ называюць "золатам беларускіх палёў".

Творчая майстэрня ўяўляе сабой тры экспазіцыі. Знаёмячыся з першай экспазіцыяй юныя турысты даведаліся пра тое, што такое лён, для чаго яго выкарыстоўвалі нашы продкі, пра традыцыі, павер'і і старадаўнія абрады, звязаныя з гэтай надзвычай важнай для беларусаў раслінай.

А вось другая экспазіцыя не толькі пазнаёміла наведвальнікаў з усімі працэсамі ручной апрацоўкі лёну, а і непасрэдна дала магчымасць кожнаму жадаючаму паўдзельнічаць і папрацаваць нязвыклымі для нашага часу прыладамі працы, адчуць, наколькі гэты працэс быў марудны і цяжкі.

Трэцяя экспазіцыя расказала школьнікам пра сучасную перапрацоўку лёну на заводзе "Карэлічы-лён". Размова ішла менавіта аб тым, што і як рабілі з лёну раней і робяць ў нашыя дні на прадпрыемстве ў суседняй з



Ганчарамі вёсцы Даржы.

Дзіўным для навучэнцаў стала і тое, што з дабаўленнем сем’я лёну можна прыгатаваць смачныя стравы: кісель, хлеб, вараную бульбу з сем’евай прыправай, у чым яны і пераканаліся падчас дэгустацыі. Стравы сапраўды прыйшліся ўсім даспадобы.

Знаёмства з "золатам беларускіх палёў" працягнулася ў творчых майстэрнях, дзе кожны юны турыст сваімі рукамі стварыў "лялькy-абярэг", а затым гаспадыня майстэрні запрасіла гасцей на сапраўдныя беларускія танцы, дзе юнакі і дзяўчаты развучвалі рухі беларускага народнага танцу "На рэчаньцы", а затым спрытна прывялі ўсё ў дзеяне.

Экскурсія нікога не пакінула абыякавым. Кожны наведвальнік змог не толькі атрымаць уяўленне аб такой



расліне, як лён, але і дакрануцца да часцінкі беларускай культуры, даведацца шмат цікавага і карыснага падчас дэгустацыі кулінарных страў. А яшчэ вучні адчулі, якая добразычлівая і ўтульная атмасфера пануе ў Ганчарскім доме культуры. Усё гэта падказала нам, што людзі, якія працуюць тут, з вялікай любоўю і павагай адносяцца да гісторыі роднага краю, да людзей-працаўнікоў, да сваёй справы.

***Наталля АНАШКЕВІЧ,***
*класны кіраўнік, г. Ліда, школа № 11, 11-ы клас.*





# Дзеці мацней за іншых верацъ у цуды

"Цуд Каляд" здарыўся і з маленькімі ўдзельнікамі інклюзіўнай майстэрні г. Ліды "Простыя рэчы".

20 снежня педагогі лідскага Экацэнтра правялі для дзяцей фларыстычны майстар-клас па вырабе калядных настольных кампазіцый у эка-стылі.









На невялікім спіле дрэва дзеці адлюстравалі свае самыя добрыя і цёплыя пачуцці

Прыемным завяршэннем сустрэчы сталі салодкія падарункі з мяшка Дзеда Мароза.

***Наш кар.***

# Выкладчыкамі ШАГ сталі супрацоўнікі лідскіх устаноў культуры

**"Радзіма мая Беларусь у асобах. Захавальнікі прыгожага"** - на гэты раз так прагучала тэма інфармацыйнага праекта ШАГ (“Школы актыўнага грамадзяніна”), які быў арганізаваны ва ўстановах адукацыі. На дыялогавай пляцоўцы, якія адбыліся ў ДУА "СШ №13 г. Ліды" і ДУА "Крупаўская сярэдняя школа Лідскага раёна" прыняў удзел і навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун.

Тэма якраз і адпавядала таму накірунку, у якім працуе музейшчык. Гутарка ішла пра славутасці нашай краіны, а менавіта пра буйныя дзяржаўныя музеі, пра аб'екты, якія ўнесены ў спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Адназначна, падчас гутаркі была згадана і лідская славутасць - Лідскі замак, які добра вядомы і за межамі Беларусі і якому нядаўна адзначылі 700 гадоў з дня заснавання.

Навуковы супрацоўнік А. Хітрун у сваім выступленні прыцягнуў увагу вучняў і настаўнікаў школ на таксама вядомы ў горадзе і далёка за яго межамі - аб'ект Лідскага гістарычна-мастацкага музея Дом Валянціна Таўлая. З вуснаў выступоўца прысутныя даведаліся пра праекты, якія праходзяць у сценах Дома-музея, пра выхад кніг, пра даследчую дзейнасць, якая актыўна праводзіцца па выяўленню цікавых асобаў, а менавіта пра пісьменнікаў Беларусі, якія ў свой час пакінулі ад сябе часцінку ў гісторыі Лідскага краю. Было паведамлена, што ў хуткім часе літаратурны асяродак Беларусі адзначыць 110 год з дня нараджэння беларускага паэта Валянціна Таўлая і да гэтай падзеі рыхтуюцца супрацоўнікі Дома-музея, які размяшчаецца ў Лідзе па вуліцы Замкавая, 7.

Напрыканцы вучні і настаўнікі пачулі вершы, гумарыстычныя замалёўкі з вуснаў А. Хітруна.





З асалодай былі згаданы моманты яго сяброўства з былым дырэктарам школы №13, лідскім пісьменнікам Віктарам Бачаровым.

Настальгічным матывам сталі ўспаміны пра сваю родную Крупаўскую школу, пра сваю першую настаўніцу, пра прыезд вядомых пісьменнікаў Беларусі (У. Ліпскага, Э. Акуліна і Л. Дранько-Майсюка, В. Шніпа і інш.) ў гэтую навучальную ўстанову. Асобна атрымалася сустрэча з вучнямі пачатковых класаў, якія на радасць ведаюць ужо прозвішчы вядомых класікаў беларускай літаратуры, гутараць па-беларуску. Была наладжана экскурсія ў школьны краязнаўчы музей, у якім, дарэчы, таксама сабраны матэрыял пра земляка.




Мілы той куток, дзе перарэзаны пупок!

Гасцямі мерапрыемстваў у сярэдняй школе №8, гімназіі № 1 г. Ліда і сярэдняй школе № 6 імя Н.Б. Куканенкі сталі дырэктар Палаца культуры Ірына Эдуардаўна Тур і мастацкі кіраўнік установы - Іна Іванаўна Альшэўская.










На сустрэчах гаворка ішла пра найбуйнейшыя дзяржаўныя музеі, значныя аб'екты Рэспублікі Беларусь, якія ўключаны ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Адмысловая ўвага была нададзена працы калектываў Палаца культуры горада Ліды і анонсу навагодніх мерапрыемстваў.

21 снежня старшакласнікі СШ № 9 г. Ліды імя А.У. Нічыпорчыка сустрэліся на дыялогавай пляцоўцы ў рамках інфармацыйна-адукацыйнага праекта "ШАГ" Тэма сустрэчы "Радзіма мая Беларусь у асобах. Захавальнікі прыгожага (пра дзеячаў культуры і мастацтва)".

У абмеркаванні прыняла ўдзел Некрашэвіч Г.Т., загадчыца экспазіцыйна-выстаўнага аддзела ДУ ЛГММ. Дзеці гаварылі пра найбуйнейшыя дзяржаўныя музеі, значныя аб'екты Рэспублікі Беларусь, якія ўключаны ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА, пра сучаснае культурнае жыццё Беларусі.





Ганна Тадэвушаўна, госць мерапрыемства, распавяла пра Лідскі замак - пярліну Лідчыны. Дзецям была прапанавана завочная аглядная экскурсія з наведваннем замкавых залаў.

У рамках інфармацыйна-адукацыйнага праекта "ШАГ" у СШ № 11 г. Ліды прайшла дыялогавая пляцоўка па тэме "Радзіма мая Беларусь у асобах. Захавальнікі прыгожага". На сустрэчу са старшакласнікамі былі запрошаны: Кярней Анатоль Віктаравіч, намеснік дырэктара па выхаваўчай працы ДУ "Дзіцячая школа мастацтваў"; Вярэшка Кацярына Пятроўна, метадыст аддзела выяўленчай і дэкаратыўна-прыкладной дзейнасці Лідскага РЦТДІМ; Зенюкевіч Тамара Іосіфаўна, загадчык бібліятэкі СШ № 11 г. Ліды. Падчас гутаркі старшакласнікі абмяркоўвалі такія паняцці як:гістарычна-культурныя каштоўнасці беларускага народа, духоўныя каштоўнасці і традыцыі, успаміналі найболей значныя аб'екты спадчыны.









Дзеці актуалізавалі свае веды ў вобласці культуры і мастацтвы нашай краіны з дапамогай інтэрактыўнай віктарыны.

У СШ № 2 г. Бярозаўкі прайшла інфармацыйная пляцоўка з удзелам дырэктара Бярозаўскай дзіцячай школы мастацтваў Сычэўскай Вяславы Іванаўны ў рамках Школы актыўнага грамадзяніна па тэме "Радзіма мая Беларусь у асобах. Захавальнікі прыгожага". Дзеці актуалізавалі свае веды ў вобласці культуры і мастацтва нашай краіны з дапамогай інтэрактыўнай віктарыны. Вяслава Іванаўна распавяла пра дасягненні навучэнцаў, якія наведваюць БДШМ, на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, людзей мастацтва, услявіўшых свой горад і краіну на ўвесь свет.






У 9-ых класах Бярозаўскай СШ № 3 прайшла інфармацыйная гадзіна ў рамках інфармацыйна-адукацыйнага праекта "ШАГ" на тэму: "Радзіма мая Беларусь у асобах. Захавальнікі прыгожага". Перад навучэнцамі выступіла Марчанка Вікторыя Сяргееўна, начальнік аддзела па працы з моладдзю ДК г. Бярозаўкі і Сабалеўскі Яўген Міхайлавіч, акампаніятар узорнага ансамбля танцу "Крышталікі", якія распавялі выпускнікам школы пра дасягненні беларускай культуры.





Сустрэчы ў рамках праекта “ШАГ” прайшлі і ў іншых навучальных установах Дідчыны.

***Паводле СМІ.***





*Навіны Германіі*

# Новы год у Германіі: Guten Rutsch!

Каляды ў Германіі - ціхае сямейнае свята, а вось Новы год прынята адзначаць шумна і весела. У рэстаранах, барах, клубах, на гарадскіх плошчах і набярэжных збіраюцца кампаніі, усе віншуюць адзін аднаго, абменьваюцца сувенірамі і плаўна "саслізгваюць" у новы - вядома ж, вельмі шчаслівы год.

Феерверкі, салюты, ляскаўкі: немцы выходзяць на вуліцы, каб запускаць усю гэтую наваготнюю піратэхніку на цэнтральных плошчах, на набярэжных і ў парках. Звычай сустракаць Новы год з грукатам, песнямі і скокамі звязаны з сярэднявечным павер'ем: лічылася, што шум адганяе злых духоў і ўсялякія няўдачы. Пярэдадзень Новага года ў Германіі завуць Silvester - па імені Папы Рымскага Сільвестра I, які памёр 31 снежня 335 года. Традыцыйна немцы жадаюць адзін аднаму добрага "ўезду" ці "слізгацення" ў новы год: Einen guten Rutsch! А апоўначы, стукаючыся шампанскім, яны кажуць: "Prosit Neujahr", што азначае: "Хай усё атрымаецца ў новым годзе".

Гулянне пад адкрытым небам у цэнтры Берліна - самае буйное ў краіне і адно з самых вялікіх у свеце. Кожны год тут збіраецца да двух мільёнаў гасцей. На сцэне каля Брадэнбургскіх варот усю ноч змяняюць адзін аднаго музыкі, на вуліцы 17 Чэрвеня ўладкоўваюць "кулінарную мілю", а роўна апоўначы ў неба ўзлятае каля 6 тысяч салютаў.

У Гамбургу народныя гулянні адбываюцца па ўсім горадзе. Ахвотнікі паглядзець феерверкі пад акампанемент званоў ідуць на набярэжную Эльбы ці ў порт, а аматары начнога жыцця сустракаюцца на знакамітай вуліцы Рэпербан у раёне Санкт-Паўлі.

У Дрэздане навагоднія гулянні разгортваюцца на плошчы Тэатэрплятц, у Франкфурце - на беразе ракі Майн, у Кёльне - на Саборным пляцы і набярэжнай Рэйна, у Мюнхене - на лузе Тарэзіенвізэ ў цэнтры горада. На выспе Зільт Новы год адзначаюць без піратэхнікі: тут яна забаронена з-за саламяных дахаў многіх мясцовых хатак. Затое імпрэза суправаджаецца шматлікімі канцэртамі, пляжнымі вечарынкамі і грандыёзнымі навагоднімі купаннямі ў Паўночным моры.

Тыя, хто сустракае Новы год дома, таксама не нудзяцца. Падчас застолля многія глядзяць святочную тэлепраграму з папулярнымі шлягерамі, гуляюць у настольныя гульні ці варожаць. Вельмі папулярны звычай варажбы на свінцы - Bleigiessen. Для гэтага кожны растопліваe ў лыжцы кавалачак свінцу, а потым хутка вылівае яго ў ваду і глядзіць, якая фігурка атрымалася. Значэнне фігурак тлумачыцца ўсімі разам, пасля чаго яны хаваюцца да наступнага года, каб падчас традыцыйнай вячэры выняць іх і распавесці, ці спраўдзілася прадказанне. Так, напрыклад, сэрца азначае закаханасць, кольца - хуткае вяселле, лодка - вандраванні. Адзіная фігура, якая сапраўды не прынясе нічога добрага, - ідэальны шар - знак шчасця, якое адкочваецца.

Навагодні стол у немцаў таксама звязаны са шматлікімі павер'ямі. У якасці закускі падаюць стравы з сачавіцы - суп ці розныя салаты. Плоскія зярняткі падобныя на



манеткі і павінны прынесці ў хату грошы на ўвесь будучы год. Традыцыйнай галоўнай стравай лічыцца запечаны карп, серабрыстая луска якога таксама сімвалізуе багацце і дастатак. Часам асноўную страву рыхтуюць са свініны, паколькі парася ў Германіі - таксама знак поспеху і дастатку. У Рэйнскай вобласці на стол, як правіла, падаюць гусака. Іншыя гаспадыні пазбягаюць рыхтаваць да святочнага стала птушку - кажуць: "Шчасце паляціць". А ўжо моладзь аддае перавагу меней клопатным стравам, і ўсё большую папулярнасць у немцаў знаходзяць фандзю і раклет. І ўсё-такі навагодні стол не абыходзіцца без любімых ласункаў - выпечкі з цукатамі і разынкамі, а таксама печаных яблыкаў з мёдам, марцыпанам і арэхамі. З напояў абавязкова п'юць шампанскае - нямецкі Sekt, а яшчэ піва, крушон і пунш.

Ёсць у немцаў і свая "Іронія лёсу..." для навагодняй ночы. Гэта камедыйны скетч "90-ты дзень нараджэння, ці Вячэра на аднаго". Сюжэт фільма такі: шаноўная дама адзначае юбілей, усе яе сябры даўно памерлі, але лакей Джэймс жадае пацешыць гаспадыню і стварае ілюзію прысутнасці гасцей. Зноў і зноў верны слуга перакульвае чарачку і чарговая падача страў становіцца смяшней за папярэднюю. Гэта стужка 1963 года занесена ў Кнігу рэкордаў Гінэса як самы паўтараны фільм у свеце. Сярод іншых хітоў нямецкага навагодняга эфіру - чароўная казка "Тры арэшкі для Папялушкі" вытворчасці Чэхаславакіі і ГДР. Яна ўжо даўно здабыла культавы статус і збірае каля экрана ўсю сям'ю. Яшчэ адна казка - "Марозка" савецкага рэжысёра Аляксандра Роў - завецца тут "Прыгоды ў чароўным лесе". Яе нямецкі дубляж зрабіла ў 1965 годзе ўсходнегерманская студыя DEFA, і дагэтуль героі фільма - Іван, Насценька і Марфуша - неверагодна любімыя нямецкім гледачом.

Што да падарункаў, то іх у Германіі прынята дарыць на Каляды. У навагоднюю ноч блізкія і сябры абменьваюцца толькі сімвалічнымі сувенірамі. Гэта могуць быць марцыпанавыя цукеркі ў форме ўсяго таго, што традыцыйна прыносіць шчасце - парасяці, канюшыны, падковы ці камінара. Дарэчы, камінар - гэта яшчэ адзін вельмі навагодні персанаж. Лічыцца, што сустрэча з ім у святочную ноч абавязкова прынясе поспех на ўвесь год. А калі шчаслівчык яшчэ і пакратае камінара за гузік ці выпацкаецца ў сажы, то ўжо хутка ён будзе сапраўдным пестуном лёсу.

***Дар'я Хрушчова.***





# Пісьменнік, які спрабаваў пісаць праўду

*24 снежня споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка **Аляксея Кулакоўскага** (1913-1986), які быў яркім прадстаўніком рэалістычнай літаратуры XX стагоддзя. У яго творчасці арганічна спалучаюцца маральна-этычныя, грамадска-палітычныя і філасофскія праблемы.*

Нарадзіўся Аляксей Кулакоўскі ў вёсцы Кулакі на Салігоршчыне ў сялянскай сям'і. У 1931 годзе скончыў Рагачоўскую прафтэхшколу бондараў, затым загадваў бандарнай арцеллю ў Касцюковіцкім раёне. З 1931 па 1934 год быў адказным сакратаром клімавіцкай раённай газеты "Камуна", публікаваў замалёўкі. У 1934 годзе пераехаў у Менск, працаваў у газеце "Чырвоная змена". У 1936-1939 гадах вучыўся ў Менскім настаўніцкім інстытуце, на Вышэйшых курсах мовы і літаратуры. Потым выкладаў у Цяцерынскай сярэдняй школе на Магілёўшчыне. У 1939 годзе быў прызваны ў армію. У гады Другой сусветнай вайны з'яўляўся камандзірам узвода, камандзірам роты, удзельнічаў у баях на Сталінградскім і Першым Украінскім франтах, атрымаў тры раненні. Пасля дэмабілізацыі працаваў загадчыкам аддзела ў газеце "Сталинская молодежь", часопісе "Беларусь", адказным сакратаром газеты "Літаратура і мастацтва". У 1953-1958 гадах Аляксей Кулакоўскі быў галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць". У 1958 годзе ў травеньскім нумары часопіса "Маладосць" галоўны рэдактар выдання надрукаваў аповесць "Дабрасельцы". Праз некаторы час крытыка ацэніць гэты твор наступным чынам: *"… пісьменнік імкнуўся паказаць складанасць жыцця калгаснай вёскі пачатку 1950-х гадоў"*. І далей: *"Супраць якіх з'яў, што мелі месца ў недалёкім мінулым, павёў агонь пісьменнік? Супраць парушэнняў сацыялістычнай законнасці, абмежавання дэмакратыі і падаўлення ініцыятывы знізу. Фактаў, звязаных з гэтымі з'явамі, у пісьменніка было нямала. Ведаў, бачыў у жыцці ён і канкрэтных носьбітаў зла. Аднак узняцца на патрэбную вышыню для гістарычна праўдзівай ацэнкі і асэнсавання гэтых фактаў Аляксей Кулакоўскі не здолеў". (Сяргей Гусак).* Аляксея Кулакоўскага звальняюць з пасады галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць".

З 1965 па 1976 гады ён з'яўляўся намеснікам адказнага сакратара, адказным сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1977 па 1986 гады ён працаваў дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Аляксей Кулакоўскі пачаў друкавацца ў 1932 годзе. Асноўныя тэмы творчасці пісьменніка - гераічны подзвіг народа ў гады вайны, жыццё пасляваеннай вёскі, яе складаныя гаспадарчыя і духоўныя праблемы. Для творчай манеры Аляксея Кулакоўскага характэрна ўзмацненне мастацкай нагрузкі на бытавыя дэталі, набліжанасць да жыццёвай праўды. Героі яго твораў - звычайныя, простыя людзі. Аляксей Кулакоўскі пісаў раманы, аповесці, апавяданні, эцюды, нарысы, гумарэскі. Першы зборнік апавяданняў "Сад" (1947) быў прысвечаны тэме вайны і цяжкаму пасляваеннаму жыццю. Паглыбленай цікавасцю да быту людзей, іх паўсядзённых клопатаў вызначаюцца зборнікі "Хораша ўзыходзіць сонца" (1952), "Незабыўнае рэха" (1956), аповесць "Тры зоркі" (1963). Філасофскія і палітычныя праблемы асвятляюцца ў апавяданні "Нямко" (1946). Утылітарны падыход да чалавека асуджаецца ў апавяданнях "Кватаранты" (1952), "Дванаццаты, жорсткі" (1956), аповесці "Нявестка" (1956). Сатырычна апісана псіхалогія дэмагагаў і кар'ерыстаў у аповесці "Дабрасельцы" (1958). Самым значным творам, галоўнай працай Аляксея Кулакоўскага з'яўляецца яго дылогія - раманы "Расстаёмся ненадоўга" (1955) і "Сустрэчы на ростанях" (1962), у якіх падрабязна адлюстравана жыццё ваеннага пакалення, асэнсоўваецца роля інтэлігенцыі ў грамадстве. У рамане "Сцежкі зведаныя і нязведаныя" (1974) паказана беларуская вёска ў час калектывізацыі і першыя дні вайны. У шэрагу твораў выкарыстаны дакументальныя матэрыялы, раскрываецца мужнасць народа, разглядаецца сувязь гераізму і працоўнага ўкладу людзей. Сярод іх - "Да ўсходу сонца" (1957), "Твой шлях перад табою" (1964), "Дзе каму жыць" (1971), "Маршрут ад Клічава" і "Хлебарэз" (1983). У цыкле апавяданняў "Салігорскія эцюды" (1963), аповесцях "Тут я жыву" (1960), "Расце мята пад акном" (1966) асвятляюцца праблемы суадносін урбанізацыі і традыцыйных маральных каштоўнасцей. У рамане "Васількі" (1981) характарызуецца жыццё горада ў пасляваенны час, абагульнены шматлікія пытанні маральна-этычнай праблематыкі. Пісьменнік выдаў для дзяцей зборнік апавяданняў "На возеры" (1950), кнігу аповесцей "Белы сокал" (1985; Дзяржаўная прэмія БССР, 1986). Аляксей Кулакоўскі быў узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі "Знак Пашаны", Дружбы народаў, медалямі. У 1974 годзе ён атрымаў званне заслужанага работніка культуры Беларусі.



***Паводле СМІ.***

Ежы Хопен

# Палац у стылі ракако ў Гануце

***Ад перакладчыка:*** *Тэкст вядомага віленскага мастака і мастацтвазнаўцы Ежы Хопена пра маёнтак, які не існуе з 1943 г.*

Віленскае барока, якое мае так шмат узораў сакральнай архітэктуры, надзвычай беднае ўзорамі свецкага будаўніцтва. Ведаем толькі трошкі будынкаў кляштараў, сакрыстый, і гэта ўсё.

Адзіным прыкладам гэтага стылю ў архітэктуры жылога дома можа служыць двор у Гануце. Ён з'яўляецца добра захаваўшымся выключэннем. Будучы надзвычай цікавым аб'ектам, ён, на жаль, застаўся па-за ўвагай нашых знаўцаў. Яго не даследаваў с. п. прафесар Клос, др. Лорэнц не згадвае пра яго ў сваіх "Экскурсіях …" (Stanislaw Lorentz. Wycieczki po wojewodztwie wilenskiem. Wilno. 1932. - *Л. Л.*), дзе піша пра больш сціплыя і менш цікавыя сядзібы.

Сядзібны дом у Гануце - невялікі мураваны палацык ў стылю ракако. Аднак гэта наша, сціплае ракако, не перагружанае арнаментамі і ўпрыгожаннямі, але тым не менш высакароднае ў сваіх прапорцыях і лініях.

Гэты аднапавярховы будынак у сваім цэнтры мае двухпавярховую частку якая выходзіць ў фронт і тыл гмаху. Унутры яна складаецца з дзвюх частак - з хола з лесвіцай на верхні паверх і вялікай бальнай залы вышынёй у два паверхі.

Дах сядзібы ламаны, мансардны. Па вуглах тыльнага фасада выступаюць прыбудаваныя альковы. Перад будынкам маецца праезд, акружаны слупамі і балюстрадай, упрыгожанай урнамі. Такія ж урны ўнутры будынка вянчаюць сходы на першы паверх.

Уезд у двор упрыгожваюць рэшткі некалі цікавай мураванай брамы. За сядзібай знаходзіцца прыгожы парк з дзвюма мураванымі капліцамі, таксама выкананымі ў стылі ракако, якія нечым нагадваюць верхнія паверхі вежаў віленскага місіянерскага касцёла. У адной з капліц захавалася выразаная з дрэва статуя Маці Божай Беззаганага Зачацця.

Асаблівасцю сядзібы, з'яўляецца капліца, размешчаная ўнутры дома на першым паверсе, у згаданай ужо сярэдняй частцы. Гэтая капліца мае абраз у алтары і драўляны балкон для аркестра ў бальнай зале. Гэта рэдкая з'ява ў нашых гістарычных дварах. Трэба ведаць, што ўласна пра такі балкон у замку Гарэшкаў ідзе размова ў



***Ганута. Малюнак Напалеона Орды, 1875 - 1877 гг.***





"Пане Тадэвушы", знаўцы і зараз не могуць знайсці ў нашых сядзібах такі балкон, які мог бачыць Міцкевіч. Звычайна размова пры гэтым ідзе пра Мірскі замак, але не вядома, ці ведаў паэт гэты замак. Не кажу, што Міцкевіч ведаў Гануту, але гэты балкон ёсць аргументам, што хоры для аркестраў і насамрэч існавалі ў нашых дварах.



***Маёнтак Ганута***

Ганута калісьці належала князю Клеафасу Агінскаму. Потым дасталася яго роднай сястры Юзэфе Лапацінскай, старасціне гузаўскай, якая праз нейкі час прадала гэту маёмасць Ржавускаму. Сёння Ганута ёсць уласнасцю Леанарды Валовіч.

На пачатку XIX ст., падобна, у Ганўце меўся касцёл пад вызваннем св. Ганны, які быў філіяй суседняга парафільнага касцёла. Была тут і уніяцкая царква, якая ў 1839 г. стала праваслаўнай, але тая старая царква зруйнавалася.

Вышэйапісаны палац фундаваў князь Клеафас Агінскі.

Ігнацы Ходзька апісвае Гануту ў "Берагах Віліі", але праз сваю ўзнёслую паэтычную фантазію ён падае даволі цьмяны вобраз гэтага палаца, бачачы на яго фоне сваіх візій мінулага. Ва ўсякім разе, з гэтага апісання можна зразумець, што з часоў Ходзькі тут мала што змянілася. Пра парк ён піша, што ён *"падабнюткі на Сапяжынскі ў Вільні"* - з доўгімі, цёмнымі, ліпавымі алеямі.

Паэт згадвае і хор у гарышчы над уваходам, і алтар у дамовай капліцы на хоры. Ён таксама піша, што ў палацы было шмат вялікіх партрэтаў *"продкаў у доўгіх ферязях"* (старажытная святочная верхняя вопратка шляхты з доўгімі рукавамі, без каўнера і паса - *Л. Л.*), *з посахамі, буздыганамі і булавамі у руках"*. Гэтых партрэтаў ужо няма. Па словах паэта, зала, даўжынёй праз увесь дом, у гэтай, некалі княжацкай рэзідэнцыі, падобна на апусцелы касцёл. А ў адным з прыбудаваных альковаў *"як у сакрыстыі"* жыў нейкі Андрэй Ромбульд, былы сакратар князя, ваяводы троцкага. Гэты пакойчык з'яўляўся канцылярыяй князя і кватэрай яго сакратара.

Каля двара стаіць цікавы свіранчык ці малая скарбніца з пірамідальным дахам і надбудовай у форме купала, крытай гонтай.

Гэтыя невялікія падрабязнасці пра Гануты не адмяняюць таго факту, што яшчэ пра яе ёсць вельмі мала інфармацыі. З-за выключнага значэння свецкага будынка ў стылі ракако, палац у Ганўце варты вельмі грунтоўнага





***Унутраныя інтэр'еры палаца, 1920 гг.***

вывучэння. Ён унікальны на нашых землях. Мы нават не ведаем даты пабудовы палаца (у 1760-70 гг. палац пабудаваў запрошаны італьянскі архітэктар Абрахам Антоні Гену, аўтарам праекта быў прафесар віленскага ўніверсітэта, астраном Тамаш Жаброўскі, у пабудове таксама прымаў удзел архітэктар Кнакфус. - *Л. Л.*), але нашы вельмі павярхоўныя даследаванні дазваляюць высунуць гіпотэзу, што палац можа быць звязаны з вядомай сваёй прыгажосцю ўніяцкай царквой у Беразвеччы.

Ганута ляжыць на рэчцы Нарач на адлегласці 20 км на ўсход ад Смаргоні.

*Jerzy Hoppen. Rokokowy palac w Hanucie // Slowo. 1938. № 292.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *У Канадзе, Чылі і Іспаніі: Гзоўскі, Дамейка, Новікаў; Мікалай Шуканаў і Фенімор Купер*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-51 (53-103) за 2023 г.)*

Зверабой, якога наш калега Мікалай Шуканаў лічыць самым любімым з герояў Купера, - белы чалавек, але істотна тое, што жыве ён фактычна ў "індыянскай дзічы" (А. Гарун), пад вялікім уплывам індзейцаў. Жыве не па "законе джунгляў" (Law of the jungle), не "жывёльным" кодам правіл, які "ўвёў" пясняр англійскага каланіялізму (Р. Кіплінг). Каштоўнасці, якіх прытрымліваецца (хрысціянскія, "агульначалавечыя") і якімі можна тлумачыць яго падыходы, дапаўняюцца, несумненна, і некаторымі важнымі індзейскімі прынцыпамі, што ў цэлым, робіць, дзякуючы пісьменніку і потым перакладчыкам, рэдактарам, друкарам, кнігагандлярам, бібліятэкарам і іншым, пэўны станоўчы ўплыў на людзей. Усе пералічаныя катэгорыі творчых і тэхнічных работнікаў уносяць уклад у "развіццё Беларусі", пра якое мы гаварылі ў папярэднім выпуску БСІ. Уносіць і наш калега, чытач, журналіст, рэлігійны краязнавец.

*Мікалай Шуканаў*

**САМЫ ЛЮБІМЫ ГЕРОЙ КУПЕРА**

(Перачытваючы любімыя кнігі)

Ёсць пісьменнікі, якія пакараюць чытацкае ўяўленне раз і назаўсёды. Гады ідуць, мы сталеем, усё мацней ціснуць на нас незлічоныя жыццёвыя праблемы. І калі зусім робіцца, як кажуць, сіл няма, мы ўспамінаем гэтых самых пісьменнікаў, іх кнігі, якімі зачытваліся ў дзяцінстве і якія раптам захацелася зноў перачытаць. Чаму так адбываецца? Напэўна, гэтыя кнігі дапамагаюць нам вытрымаць цяжкі напор дарослага жыцця, не даюць упасці ў роспач, умацоўваюць веру ў дабро, справядлівасць.

Вольпин Н.Д.
125319,Москва,
[redacted]

24.2.1990
Гомель

Уважаемая Надежда Давыдовна !

Довольно долго я не решался написать Вам. Не отправил письмо и в сентябре прошлого года, когда было 200-летие Дж. Ф.Купера.

Я изучаю довольно необычную для многих область - белорусско-индейские связи. Естественно, Вы входите в эту область, так как родились в Белоруссии и имели дело с "индейской" литературой.

Был бы Вам очень благодарен за рассказ, даже самый короткий, о работе над переводом "Прерии" и о Вашем отношении к индейцам.

Искренне

Александр Симаков
246049,Гомель,[redacted]

***Letter to translator Nadezhda Volpin (Вольпин, 1900-1998) 1990-02-24. Гэта была "фактычная жонка" С. Ясеніна, ураджэнка Магілёва***

Да ліку такіх аўтараў, над творчасцю якога не ўладны час, належыць і Джэймс Фенімор Купер (1789-1851). Многія героі яго твораў не могуць не прыцягваць, не выклікаць спачуванне. І ў першую чаргу тут варта адзначыць самага любімага героя Купера - лясного следапыта, паляўнічага і зверабоя Наці Бампа. Ён з'яўляецца галоўнай дзейнай асобай сусветна вядомай серыі з пяці раманаў Купера: "Зверабой", "Апошні з магікан", "Следапыт", "Піянеры", "Прэрыя". Наці Бампа, вядомы пад рознымі мянушкамі (Зверабой, Следапыт, Сакалінае Вока, Даўгі Карабін, Скураная Панчоха), пакарае сімпатыі чытачоў сваім незвычайным высакародствам, сваёй рэдкай непадкупнасцю, тым, да чаго імкнецца кожны з нас. Але быць такім, як Наці Бампа не проста, не кожнаму пад сілу. У той жа час, гледзячы на Наці Бампа, мы ў любым выпадку становімся чысцей, дабрэй, святлей.

Спынім сваю ўвагу на адным з пералічаных вышэй раманаў - "Зверабой". Хаця напісаны ён Куперам апош-

18 чэрвеня 1990г.
Гомель

Паважаны д-р Кіпель !

Спяшаюся паведаміць Вам, што 13.6 у Мінску забраў пакет, перададзены праф. Бэрдам. Не маю нават слоў, каб выказаць усю ўдзячнасць. Вы разумееце, гэта так незвычайна: нашы родныя людзі так блізка да індзейцаў, адбываецца ўзаемадзеянне, культурнае, псіхалагічнае - чалавечыя кантакты...

Раней, за пару дзён да паездкі на Заслаўскія чытанні, атрымаў Ваш пакет з запісамі. Гэта было дарэчы, бо знайшоў няшмат цікавага, асабліва ў перапісцы Уляроўскага з Тумашам. Праўда, у выніку дадаў у тэкст даклада толькі адзін сказ пра караля Фердынанда. З горам папалам прачытаў яго (складальнікі праграмкі змянілі назву на "Францішак Скарына і Амерыка: падыходы да вызначэння праблемы", і я не ведаю, як лепш, мо нават і так). Кіраўнікі БНГТ сцвярджаюць, што есць магчымасць матэрыялы чытанняў надрукаваць у выдавецтве.

У сваім дакладзе (ці, дакладней, аглядзе або паведамленні) згадаў паэму Янкі Юхнаўца "Калумбы" (Нью-Йорк, 1967), але тэксту яе не маю. Быў бы Вам вельмі ўдзячны за яго. Тэма "Калумб і Беларусь" асобная (і неабсяжная, бо "адкрыўца" фігуруе ў сотнях, нават тысячах крыніц), ею займаемся.

Каталог Іванешкі хутка выйдзе (у Крылова пакуль няма). Паслаў бы яшчэ тады, але ўзнікла пэўная сітуацыя, якая перашкодзіла. Хаця Іванешка кепска выказаўся пра патрыятызм мастака ў сувязі з Чарнобылем (пра гэта я кажу Вам канфідэнцыяльна) і ўвогуле мне не падабаецца міжмастакоўская амбіцыйная грызня, галоўнай прычынай было іншае, "тэхнічнае".

Пасылаю гэтым разам ліст да Ст. Тамары і "распрацоўку" па П. Літвінцаву. (Дарэчы, я паспрабаваў знайсці інфармацыю пра мастачку ў даведніках, якія пералічваюцца ў спісе, але безвынікова. У Мінску "Сучасныя аўтары" есць толькі да 80 тома, "Хто есць хто сярод амерыканскіх жанчын" - '85/6, "Слоўнік міжнароднай біяграфіі" стары, астатнік няма; у Гомелі есць "Хто есць хто ў амерыканскім мастацтве" 1956г. і ў            не знайшоў тое, што шукаў. У каталозе ДБ есць шмат картак на прозвішча Стагановіч. Марыя В. Стагановіч перакладала на беларускую мову самую розную літаратуру ( між іншым і "Бука-паштовага сабаку" Дж. Лондана, 1930)).

Бібліяграфіі па беларускай паэзіі і падрадковую да матэрыялу пра Купера пашлю праз некалькі дзён. Што датычыцца Купера, то гэта вялікі гонар атрымаць лаканічную, але станоўчую ацэнку юбілейнага артыкула, яшчэ няўпэўненага па стылю, з Нью-Джэрсі - радзімы пісьменніка. Мне вядомы толькі адзін матэрыял пра Купера ў беларускім друку: Фенімор Купер. Піянер Беларусі, 1939, 23 верасня (няма у ДБ і БАН). Канешне, есць мноства згадак і "чужых" прадмоў у беларускіх рускамоўных выданнях твораў Купера, якія не выкарыстаў. Вось адзін з апошніх прыкладаў "куперaўскага""гумару", які ўвязваецца з нашай рэчаіснасцю: "Так што калі вы ў час мыцця галавы змыеце з сябе валасы разам са скурай - не палохайцеся, - гэта не вынік аварыі на ЧАЭС і не злачынства якога-небудзь Іракеза з раманаў Ф. Купера і Т. Майн Рыда, а проста мыла, якім вы намылілі галаву, выробленае адной з вышэй пералічаных "фірм"( "Чырвоная змена", 16.6.1990, с.16; Багадзяж М. Ах, мыла, мыла... (фельетон)). Хаця тут трайны і нават "чацвярты" здзек, я згодны, што гэта адзін з самых удалых і найбольш "канцэнтраваных" "сацыяльных крытыцызмаў", які трапіў у наша поле зроку.

Заканчваючы, хацеў бы яшчэ папрасіць у Вас любой інфармацыі па беларусах Дэтройта. Ці не дапамаглі б Вы ў кантактах з імі? Есць цікавы праект.

Шчыра Ваш

Алесь Сімакоў, БІТ.

***Letter to Vitaut Kipel 1990-06-18***

№ 52 (104) 27 СНЕЖНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

БЕЛАРУСКА-ІНДЗЕЙСКАЕ ТАВАРЫСТВА
246049, Гомель,

Гурэвіч Э.С. №16 14.I.1992
220072, Мінск,
пр. Ф.Скарыны, 66
Інстытут літаратуры
АН Беларусі

Паважаная Эсфір Саламонаўна!

Я ужо пісаў Вам, але, магчыма, Вы не атрымалі той ліст.
Спрабую яшчэ раз. Пытанняў у нас шмат, але найбольш актуальнае сення (я рыхтую манаграфію па беларуска-індзейскіх сувязях) - пераклад Л.Маўрам Купера (Вы згадвалі гэты факт у дапаможніку "Дзіцячая "Беларуская дзіцячая літаратура" (1980, с. 210)). Як можна гэта пацвердзіць?
Будзем удзячны за адказ.
З найлепшымі пажаданнямі

Алесь Сімакоў,
выконваючы сакратар

***Letter to Esfir Gurevich (Minsk) (Эсфір Гурэвіч) 1992-01-14***

нім (у 1841 годзе), але па храналогіі падзей стаіць першым (так ужо склаліся творчыя акалічнасці ў аўтара).

Раман "Зверабой" прывабны і цудоўным апісаннем першабытнай прыроды Паўночнай Амерыкі, і захапляльным сюжэтам, а ў нашым выпадку - і найбольш усебаковым апісаннем лепшых чалавечых якасцяў галоўнага героя (дарэчы, рэальнага чалавека). Прывядзём толькі

Свет захапленняў.
Сябры індзейцаў.
Вось такі ліст прыйшоў да нас з апошняй поштай.
„Паважаная рэдакцыя! Мой ліст вы, хутчэй за ўсё, адложыце ў бок. Але ўсё-такі хачу надзеяцца.
Вось ужо каля шасці год я „хварэю" індзейцамі. Пачалося ўсё з цудоўнай кнігі Г. Майна Рыда „Асеола - правадыр семінолаў". Да, спачатку гэта было дзіцячае захапленне рамантыкай індзейскага жыцця. У мне хацелася пабегаць па нашаму бару з пер'ямі ў валасах, пабудаваць у лесе вігвам. Але потым прыйшла моцная любоў да гэтага народа, боль за яго лёс, гарачае жаданне дапамагчы чым-небудзь. Зараз мне 18 год, дзяцінства прайшло, але я і не думаю кідаць сваё захапленне. Наадварот, яно стала больш асэнсаваным. Я збіраю розныя звесткі аб жыцці, побыце і барацьбе індзейцаў, у мяне ёсць невялічкая бібліятэчка на гэтую тэматыку. Але гэтага, канешне, вельмі мала. Сваім захапленнем я „заразіла" сяброўку. Мы перапісваемся з сябрамі індзейцаў з розных гарадоў краіны.
У ГДР і ПНР існуюць клубы сяброў індзейцаў. Летам мінулага года пад Ленінградам адбыўся першы ў нашай краіне злёт індзеяністаў. Я сабралася на яго, дай бог, не дзеці. Супрацоўнікі музея этнаграфіі АН СССР прадставілі ўдзельнікам злёта прадметы індзейскага побыту з сваіх фондаў, вядзялі куратара і кіраўніка - Г. Акіаўнікаву.
Каля 250 індзеяністаў у нашай краіне. Але мы ўпэўнены, што колькасць іх павялічыцца. Зараз ствараецца ўсесаюзны

1

***Alena Kastsenka (Elena Kostenko). Friends of Indians (published in Russian in Grodnenskaia pravda, 31.01.1981; trans. from Russian into Belarusian by Mikalai Shukanau 1988-08-07) p. 1 of 2***

клуб індзеяністаў з цэнтрам у Ленінградзе і Новасібірску. Кожны цэнтр будзе выдаваць свой часопіс. У мяне ўжо ёсць першы нумар новасібірскага часопіса „Вампум". Я ўпэўнена, што ў Гродна знойдуцца мае аднадумцы. І, можа быць, мы з часам арганізуем філіял усесаюзнага клуба індзеяністаў. Гэта не пустая задума. Распаўсюджваць веды аб культуры індзейцаў Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, аб іх барацьбе і жыцці - хіба гэта не будзе дзейснай дапамогай шматпакутнаму народу.

Алена Касценка

Ад рэдакцыі. Ліст гэты ўразіў сваёй шчырасцю і мэтанакіраванасцю. Няправільна думаць, што захапленні зводзяцца абавязкова да збірання якіх-небудзь калекцый. Свет гэты надзвычай шырокі.
Можа быць, сваімі меркаваннямі падзеляцца і іншыя чытачы нашай газеты.

07. 08. 1988.
г. Жлобін
Шуканаў
В. К.

2

***Алена Касценка. Сябры індзейцаў (Елена Костенко. Друзья индейцев. Гродненская правда, 31.01.1981; пер. з рус. М. Шуканава 1988-08-07) p. 2 of 2***

некалькі аўтарскіх характарыстык Зверабоя, але і гэтага будзе дастаткова, каб прасякнуцца да яго глыбокай сімпатыяй.

*"Зверабой... каля шасці футаў росту, ён выглядаў параўнальна худым і кволым, але мускулы яго адрознівалі надзвычайную спрытнасць, калі не надзвычайную сілу. Яго малады твар нельга было назваць асабліва прыгожым, і толькі выразам сваім ён падкупляў кожнага, хто браў на сябе працу ўглядзецца ў яго больш уважліва. Выраз гэты, які сведчыў пра дабрадушнасць, безумоўную праўдзівасць, цвёрдасць характару і шчырасць пачуццяў, быў сапраўды варты ўвагі" (глава 1).*

*"Сардэчная шчырасць узяла верх над ілжывай гордасцю" (там жа).*

*"Пакуль мне (Зверабою) не спатрэбіцца мяса або шкура, я дарэмна не заб'ю жывёлу. Я магу забіваць, гэта слушна, але я не мяснік" (глава 3).*

*"Ён (Зверабой) хлопец сумленны" (глава 4).*

*"Я (Зверабой) не здольны здымаць скальпы... упэўнены, што абавязак моцнага зводзіцца да таго, каб абараніць слабога" (глава 5).*

